

№ 39 (**200**)

Кастрычнік 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года



## У нумары:

Рэгіён: горад срэбных крыніц – *стар. 2*

Уратаваць: палац Ванньковічаў у Смілавічах – *стар. 4*


**Нам пра нас**

## Што ў маім жыцці «Краязнаўчая газета»?

*Я лічу, што мне вельмі пашанцавала ў жыцці: сярод маіх лепшых сяброў – любімая газета. Вельмі каштоўна тое, што яе рэдакцыйны калектыў ставіцца з павагай як да даследаванняў і здабыткаў вядомых вучоных-краязнаўцаў, так і да адкрыццяў тых, хто робіць першыя крокі па захапляльным шляху спазнання гістарычнага мінулага малой радзімы. Сярод тых, хто надае нам упэўненасці і аптымізму ў працы па аднаўленні, захаванні і прымнажэнні нашай агульнай спадчыны, – «Краязнаўчая газета». Абавязак кожнага свядомага беларуса – падтрымаць газету, каб не страціць каштоўны дыямент беларускасці на нашай зямлі.*

***Яна СІНЕВІЧ,***
***сябра патрыятычнага клуба «Спадчына», в. Дварэц Дзятлаўскага раёна***

## У музеі – госці з замежжа

Як заўсёды, летам на Мёршчыну прыязджае шмат гасцей. Многіх з іх цікавіць гісторыя нашага краю, з якой яны і могуць пазнаёміцца, агледзеўшы змястоўныя экспазіцыі гістарычнага музея СШ № 3.

Дзякуючы Браніславе Пятроўне Мураўскай мы пазнаёміліся з нашым земляком Уладзімірам Скукоўскім, які цяпер жыве ў Польшчы ў горадзе Ольштыне. Нарадзіўся ён на Мёршчыне ў вёсцы Трацякі (сёння не існуе), скончыў Новапагосцкую школу. У 1956 годзе сям'я выехала ў ПНР. Там ён скончыў універсітэт, атрымаў вучоную ступень доктара гуманітарных навук. З'яўляецца найбуйнейшым спецыялістам старажытнарускай палеаграфіі і старaславянскай мовы. Пад час наведвання музея падараваў адну з сваіх манаграфій «Указальнік словаў і формаў у сінадальным спісе Наўгародскага першага летапісу XIII–XIV стагоддзяў», выдадзеную універсітэтам Вармянска-Мазурскім у Ольштыне. Гэта сапраўды ўнікальнае выданне, аналагаў якому няма і ў Расіі.

Уладзімір Скукоўскі праводзіць вялікую грамадскую працу, быў старшынём Таварыства браславянаў у Ольштыне, збірае матэрыялы па краязнаўстве. Шмат апавядаў госць аб гісторыі нашых мясцінаў. Музей ён наведаў разам са сваёй жонкай Янінай і сястрой Вальдай.

Чарговы раз наведаў наш музей былы ўладальнік Павянужак Міхал Пранеўскі разам са сваёй сястрой Зофіей. У Варшаве яны арганізавалі грамадскі камітэт па зборы сродкаў на аднаўленне Дзісненскага касцёла. Як і заўсёды, пан Міхал і гэтым разам перадаў для музея цікавыя матэрыялы.

З Беластоку наведаў музей знаўца гісторыі напалеонаўскіх войнаў Рычард Ёдчык з сынам. Яго бацькі паходзілі з Браслаўшчыны. Рычард аказаў дапамогу ў вызначэнні і датаванні некаторых музейных экспанатаў, а таксама перадаў дыскі з апісаннем парафіяў касцёлаў Мёршчыны і Браслаўшчыны XVIII стагоддзя.

Вучоных са Швецыі з універсітэта ў Готландзе перш за ўсё цікавілі экспанаты, звязаныя з эпохай вікінгаў. Мы змаглі задаволіць іх інтарэсы. У музеі захоўваюцца ўпрыгажэнні вікінгаў X–XI стагоддзяў, старажытная сякера, шведская булава і манеты розных перыядаў.

***Вітаўт ЕРМАЛЁНАК,***
***дырэктар гістарычнага музея СШ № 3 г. Мёры***

## Магілёў – Мсціслаў – Пустынскі Успенскі манастыр



Такі маршрут выбралі для сябе мінскія экскурсаводы Грамадскага аб'яднання «Беларуская асацыяцыя экскурсаводаў і гідаў-перакладчыкаў» (ГА «БАЭіГП»). Экскурсавод Леанід Мяльніцкі распавёў пра стары гасцінец, які пралёг шэрай, бясконцай стужкай на ўсход. Цікавы быў расказ пра Смілавічы і Убель, дзе жылі Манюшкі. Станіслаў Манюшка – кампазітар і дырыжор, выдатны сын нашай Айчыны, нарадзіўся ва Убельскай сядзібе, дзе цяпер штогод праходзіць музычны фестываль «Убельская ластаўка». Смілавічы – радзіма вядомага мастака-экспрэсіяніста, прадстаўніка Парыжскай школы Хаіма Суціна. Ён быў родам з беднай яўрэйскай сям'і . Вучыўся ў Віленскай акадэміі мастацтваў. У 1913 годзе прыехаў у Парыж паступаць у школу мастацтваў. Апошнія гады жыцця мастак, хаваючыся у правінцыі ад гестапа, пісаў пейзажы. Памёр Х. Суцін у 1943 годзе, пахаваны на могілках Манпарнас. Мы пазнаёміліся з гарадамі Беразіно і Бялынічамі. Праехаўшы 200 км, прыбылі ў Магілёў. Нас ветліва сустрэла магілёўская зямля ў асобе дырэктара турфірмы «Крокус» Людмілы Валадзько. Экскурсію па старажытным Магілёве правяла наша калега Аляксандра Буракова. Наведалі Станіслаўскі касцёл і Мікалаеўскую царкву – помнікі архітэктуры барока. Маршрут гарадской экскурсіі наша маладая калега праклала такім чынам, каб паказаць горад ва ўсёй сваёй красе. Магілёў у апошнія гады папрыгажэў і выглядаў своеасабліва. Існуе шэраг легендаў аб узнікненні назвы горада. Адна з іх звязана з імем князя Льва Данілавіча Могія (магутны леў), які ў 1267 годзе пабудаваў замак у сутоку рэк Дубровенкі і Дняпра. Некаторыя даследчыкі лічаць, што назва горада паходзіць ад імя полацкага князя Льва Уладзіміравіча (Льва Магутнага). Народнае паданне звязвае яе з імем асілка Машэкі, над магілай якога насыпаны курган, названы «Магілай льва». Легенду выкарыстаў Янка Купала ў паэме «Магіла льва». Захавалася назва гары Машэкаўка. Знаёмства з Магілёвам завяршылася на Буйніцкім полі, дзе мы ўшанавалі памяць абаронцаў горада каля мемарыяльнага валуна з факсімільным подпісам пісьменніка Канстанціна Сіманава, прах якога развеяны на гэтым знакамітым полі.

Праехаўшы 95 км далей на ўсход, мы наведалі Мсціслаў. Ён знаходзіцца на правым беразе р. Віхры. Упамінаецца ў летапісах пад 1156 годам, з 1180 года цэнтр Мсціслаўскага княства, першы князь Расціслаў Мсціслававіч, з XIV стагоддзя ў ВКЛ, належаў князям Мсціслаўскім, з 1358 года пад уладай Альгерда, які аддаў княства свайму сыну Лугвену, пачынальніку роду Лугвенавічаў з дынастыі Гедзімінавічаў. Пра гісторыю Мсціслава нам распавялі ў музеі, што знаходзіцца ў цэнтры горада, дырэктар Уладзімір Шылянкоў і навуковы супрацоўнік Валянціна Цімашкова.

У горадзе захаваліся Міхайлаўскі касцёл і калегіум езуітаў (1730–1738), царква Аляксандра Неўскага (1870), грамадскія будынкі канца XIX – пачатку XX стагоддзяў. Мсціслаў – радзіма беларускага друкара і гравёра XVI стагоддзя Пятра Мсціслаўца. У цэнтры горада яму ўстаноўлены помнік. У 1569 годзе П. Мсціславец пераехаў у Вільню, з дапамогай Мамонічаў заснаваў друкарню, у якой амаль праз паўстагоддзя пасля спынення выдавецкай дзейнасці Ф. Скарыны адрадзіў кірыліцкае кнігадрукаванне. Нам паказалі Мсціслаўскі касцёл і кляштар кармелітаў XVII стагоддзя. На жаль, тут у савецкія часы засольвалі гуркі, таму амаль усе фрэскі знаходзяцца ў занядбаным стане. Трэба спадзявацца, што ў бліжэйшы час ён будзе адноўлены. Пра кляштар і касцёл нам распавёў пробашч касцёла Караль Тамецкі. Экскурсію па горадзе выдатна правяла Валянціна Цімашкова.

Прыблізна праз 10 км – Пустынскі Успенскі манастыр (XVIII–XIX). У савецкія часы быў закрыты і знаходзіўся ў занядбаным і паўразбураным стане. Сёння тут тры манахі (дарэчы – мінчане, маладыя хлопцы да 25 гадоў), два паслушнікі, адзін інак і рабочыя. Ігумен манастыра Іларыён – таксама малады чалавек 27 гадоў. Зараз тут адноўлена царква, з-пад якой з глыбінь зямлі выцякае крыніца. Побач з царквой знаходіцца купель са святой вадою. Адноўлены тры верхнія ярусы званіцы, на якія сёлета на Троіцу зноў устаноўлены званы. У адным з пакояў старога будынка манастыра нам паказалі выяву Спаса нерукатворнага, якая цудадзейным чынам нядаўна (у 2003 годзе) з'явілася на сцяне.

***Мікола ЧЫРСКІ,***
***старшыня ГА «БАЭіГП»***

## ...Заўсёды шукаў сваё Палессе

**Рышард Капусцінскі – вядомы ва ўсім свеце польскі пісьменнік. Найперш – як публіцыст. Двойчы вылучаўся на Нобелеўскую прэмію. Выдадзеная ў 1978 годзе кніга Р. Капусцінскага пра ўзлёт і падзенне эфіопскага цара Хайле Селас'е "Цар" была перакладзена на 30 моваў свету. У 1989–1991 гадах літаратар (радзіма якога, між іншым, Пінск) падарожнічаў па СССР.**




Як вынік – кніга «Імперыя». У 1994 годзе яе надрукаваў на рускай мове часопіс «Знамя» (перакладчык – С. Ларын). Першая частка – «Пінск, 39». У ёй – уражанні сямігадовага хлопчыка пра пачатак Другой сусветнай вайны, калі светлае і радаснае жыццё юнага чалавечка азмрочылі бамбёжка, паніка, рэпрэсіі, страх невядомасці. Пры жыцці Р. Капусцінскага (памёр пісьменнік у студзені 2007 года) «Імперыя» перавыдавалася болей як 20 разоў.

Герадот сучаснай Еўропы – так вобразна ахрысцілі нашага земляка – аўтар болей як 30 арыгінальных кніг. Пісаў Рышард Капусцінскі і вершы. У Польшчы выйшлі дзве яго паэтычныя кнігі – «Запісная кніжка» (2005) і «Закон прыроды» (2006). Выдавецтва «Літаратура і мастацтва» падрыхтавала і выдала вершаваны зборнік Р. Капусцінскага «Вяртанне». Наклад – 1 500 асобнікаў. Тэксты пададзены на рускай і беларускай мовах. На нашай мове паэзію славутага літаратара ўзнавіў А. Шушко. Перакладчыкі на рускую мову – В. Грышкавец, І. Дзямід, К. Каліноўская. Аўтар прадмовы – культуролаг, мастацтвазнаўца, публіцыст Іна Дзямід. Вось што яна, у прыватнасці, піша: "Лебядзінай песняй усёй творчасці, як запэўніваў сам пісьменнік, павінна была стаць кніга пра Пінск. Ён доўга і грунтоўна рыхтаваўся да яе напісання. Збіраў пра горад свайго дзяцінства ў букіністычных магазінах старыя здымкі, дакументы, альбомы, газетныя публікацыі. У рабочым кабінеце варшаўскай кватэры пісьменніка на самым відным месцы ляжаць матэрыялы з яго занатоўкамі пра Пінск і пра Палессе». І яшчэ Іна Дзямід прыводзіць словы самога Капусцінскага: «Я родам з Пінска, з Палесся. Можна сказаць, з правінцыі Еўропы. Можа, таму мне падабаецца быць у краінах "трэцяга свету". Паміж паездкай у Парыж ці Конга я заўжды выбіраў – Конга, Уганду... Яны мне напамінаюць маё дзяцінства. У Афрыцы, Азіі і Лацінскай Амерыцы я заўжды шукаў сваё Палессе».

Іна Дзямід і яе паплечнікі па вяртанні літаратурнай спадчыны славутага земляка зрабілі вялікую справу. Рышард Капусцінскі ўпершыню загаварыў з чытачом праз кнігу, выдадзеную ў Беларусі. Да работы над праектам спрычыніліся рэдактар Мікола Мінзер, мастак Маргарыта Шкурпіт, карэктар Марыя Гілевіч; камп'ютэрную вёрстку зрабіла Любоў Касцюкевіч. У афармленні кнігі выкарыстаны фотаздымкі М. Содэрберга, П. Залускага, П. Войціка.

*Кастусь ЛЕШНІЦА*



Стары Пінск і яго набярэжная

## 600 старонак гісторыі горада

***Позніх вераснёўскім вечарам я прыехаў у Докшыцы – даўні беларускі гарадок, які з усіх бакоў атулены лясамі. Калі па дарозе навокал ляжала цемра, то ў самім Докшыцах было светла, быццам днём: у паветры мільгацелі промні пражэктараў, зззяла рознакаляровая ілюмінацыя. Падумалася: здаецца, яшчэ не Каляды і Новы год, калі горад незвычайна перайвасабляецца. Паўсюдна тут адчувалася нейкая казачная дзея. Высветлілася, што горад рыхтаваўся да святкавання свайго 600-гадовага юбілею.***

Гісторыя гэтага паселішча бярэ пачатак з 1407 года. Першыя звесткі ў летапісах пра невялікі гарадок сённяшняй Віцебскай вобласці з'явіліся 13 студзеня роўна шэсцьсот гадоў таму. Герб, на якім адлюстраваныя два ўзгоркі ў зялёным полі са збанамі, з якіх выцякаюць срэбныя крыніцы, Докшыцы атрымалі ўжо ў 1796 годзе разам з самакіраваннем. Зараз у раённым цэнтры жыве каля сямі тысяч жыхароў (6,9 тысячы на 01.01.2007 г.).

Рыхтаваліся да гэтага саліднага юбілею мясцовыя жыхары талакой – у добрай беларускай традыцыі: ладзіліся суботнікі і нядзельнікі, якія збіралі вельмі шмат людзей. На выніку іх руплівай працы цяпер прыемна зірнуць: будынкі ў цэнтры абнавіліся, папрыгажэлі, на галоўных вуліцах паклалі тратуарную плітку, на плошчах застрменілі фантаны. Усё было зроблена за вельмі сціслыя тэрміны, таму гараджане казалі, што можна было прачнуцца раніцай і не пазнаць родную вуліцу. У святочны дзень у горад завіталі кіраўнік Віцебскай вобласці У. Андрэйчанка і іншыя дзяржаўныя асобы, якія выступілі на афіцыйнай частцы і адкрылі святочную праграму – вялікае тэатралізаванае дзейства, якое перамяжоўвалася выступленнямі народных калектываў. На сцэне ўвесь час гучалі беларуская мова і песні. І старым, і маладым цікава было паглядзець фрагмент знакамітай докшыцкай батлейкі Патупчыка, якая карысталася асаблівай папулярнасцю ў пачатку XX стагоддзя, а таксама іншыя пастаноўкі мясцовага докшыцкага тэатра.

На плошчы было мнагалюдна. І нават дождж ніяк не мог перамагчы цікавасць жыхароў да свята. Першы дзень святкавання закончыўся выступленнем ваенна-духавога аркестра з Полацка і незабыўным феерверкам.

«Сёлета нашаму роднаму гораду 600 гадоў, але не верыцца ў гэта, гледзячы на яго сённяшняе аблічча. "Новыя" Докшыцы не пазнаць. За два месяцы стары кінатэатр пераўтварыўся ў палац культуры. Горад зрабіўся прыгожы і камфортны, па-еўрапейску прывабны. Культурная праграма таксама падабаецца, нашы артысты здзіўляюць таленавітымі выступленнямі. Даслухаю духавы аркестр і пайду глядзець святочны салют», – гаворыць госць з Мінска Вадзім Фурсевіч, родныя і сваякі якога прымалі ўдзел у добраўпарадкаванні горада.

У нядзелю на галоўнай гарадской плошчы сабраліся докшыцкія дзеткі, каб паглядзець праграму «З дзяцінства родны горад». На сцэне выступілі ўдзельнікі вакальнай студыі «Вясёлка», захапіла маленькіх гледачоў гульнёвая праграма «600 гадоў Докшыцам». Падчас святкаванняў была абвешчана лепшая маладая сям'я горада, а таксама прайшоў конкурс дзіцячых малюнкаў. Напярэдадні юбілею ў горадзе актывізавалася культурнае жыццё. Так, з 14 верасня па 1 кастрычніка ў Докшыцах адбылося адразу некалькі выстаў: жывапісца і фотамастака Сяргея Вішнеўскага, сям'і вядомых мастакоў Маркаўцоў, фотавыстава «Мой докшыцкі край» Сяргея Васько, падрыхтаваны розныя гістарычныя экспазіцыі.

Докшыцкі раён – радзіма многіх таленавітых людзей Беларусі: пісьменнікаў Лявона Гмырака, Леанілы Чарняўскай, Пімена Панчанкі, Юрася Свіркі, Алеся Ставера, Івана Стадольніка, Анатоля Кірвеля, кампазітараў Нестара Сакалоўскага, братоў Насков і інш. Цяпер тут жыве і працуе драматург Фёдар Палачанін, які выдаў некалькі зборнікаў п'ес і паводле твораў якога Докшыцкі народны тэатр паставіў некалькі спектакляў. Нямала знакамітасцяў сваім лёсам спалучаны з докшыцкім краем. Так, беларускія карані мае вядомы дзяржаўны дзеяч Украіны Віктар Януковіч. Яго дзед В.Ф. Януковіч родам з вёскі Янукі Докшыцкага раёна, адкуль той да кастрычніка 1917 года выехаў у Данбас. У сваіх мастацкіх творах докшыцкі край услаўілі Рыгор Барадулін, Міхась Калачынскі, Васіль Якавенка і іншыя пісьменнікі.








Гэтая зямля, некалі надзвычай камяністая, неўрадлівая, мае багатую духоўную спадчыну. Калі праехаць па вёсках Докшыцкага раёна, то можна і песню народную пачуць, і легенду цікавую запісаць. А галоўнае, калі вам пашчасціць наведаць гэты лясны край, то вы пабачыце цудоўныя краявіды, сустрэнеце нямала народных талентаў, людзей гасцінных і шчодрых.

*Яўген БЕЛЬСКІ, студэнт журфака БДУ*






(Праця̌г. Пачатак у № 38)

# Родная гісторыя — для кожнага

## З нагоды 50-годдзя станаўлення школьнага турызму і краязнаўства на Магілёўшчыне

Ў загадзе рэкамендавалася «прадастаўляць групам турыстаў-краязнаўцаў памяшканні ў школах для начлегу ў час паходаў і падарожжаў; выкарыстоўваць знойдзеныя матэрыялы для афармлення краязнаўчых музеяў і куткоў; арганізоўваць раённыя і абласныя злёты і выставы работ юных турыстаў і краязнаўцаў».

Важную ролю ў выхаванні навучэнцаў сродкамі турызму і краязнаўства адыграла адкрыццё ў Беларусі пазашкольных устаноў турысцка-краязнаўчага профілю. 15 чэрвеня 1952 г. пачала работу Рэспубліканская турысцкая база, якая праз год рэарганізавалася ў Рэспубліканскую (Цэнтральную дзіцячую) экскурсійна-турысцкую станцыю. У красавіку 1954 г. адкрываецца Гродзенская, 1 чэрвеня 1956 г. – Брэсцкая, 31 жніўня – Віцебская і 1 студзеня 1957 г. – Гомельская абласныя дзіцячыя экскурсійна-турысцкія станцыі.

Магілёўскі аддзел народнай асветы аблвыканкама сваім загадам ад 1 красавіка 1957 г. зацвярджае стварэнне і штатны расклад *Магілёўскай дзіцячай экскурсійна-турысцкай станцыі* (ДЭТС).



Велатурысты з магілёўскай школы-інтэрната № 1, удзельнікі паходу Магілёў – Кіеў (1960 г.)

У адпаведнасці з ім прызначаюцца першы дырэктар станцыі *С.І. Грузінаў*, метадыст *І.М. Кузьмянкоў*. Праз год загадам Міністэрства асветы Беларусі «Аб мерах па паляпшэнні экскурсійна-турысцкай і краязнаўчай работы...» ва ўсіх раёнах вобласці прызначаюцца адказныя за гэту работу ў аддзелах адукацыі.

Летам 1957 г. у рэспубліцы аб'яўляецца 1 Усебеларускі зорны турысцкі паход. Актыўна ўключыліся ў яго правядзенне тысячы турыстаў і падарожнікаў Магілёўшчыны. Гэта была першая турысцка-краязнаўчая акцыя, якая аб'яднала адной справай такую вялікую колькасць школьнікаў. Паход праводзіўся ў тры этапы: у першым, раённым, прадугледжвалася праходжанне за тры дні маршруту ў 40 км з фінішам у адным месцы, дзе арганізоўваліся масавыя мерапрыемствы. У другім, абласным, этапе прымалі ўдзел лепшыя атрады раёнаў (маршрут 60 км за 5 дзён), а трэці праходзіў у форме злёту, на якім удзельнікі прадстаўлялі справаздачы і дзённікі паходу, матэрыялы, сабраныя для музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, баявыя лісткі, апісанне маршруту, карту-схему паходу, фотаздымкі, калекцыі і гербарыі.

28–30 чэрвеня 1959 г. у рамках 2-й Рэспубліканскай зорнай эстафеты (экспедыцыі) адбыўся III абласны злёт юных турыстаў. 837 экспедыцыйных атрадаў, у якіх налічвалася больш за 20 тысяч піянераў і школьнікаў Магілёўшчыны, на працягу летняга часу працавалі над выкананнем заданняў экспедыцыі. Навучэнцы знаёміліся з гістарычным мінулым роднай краіны.

З 1961 г. на Магілёўскай АДЭТС пад кіраўніцтвам вопытных падарожнікаў, краязнаўцаў, навуковых супрацоўнікаў, гісторыкаў і географаў пачынаюць працаваць шматлікія турысцка-краязнаўчыя гурткі: «Гістарычны» (кір. *С.Л. Сарокін*), «Географы-краязнаўцы» (кір. *В.П. Клімковіч, В.І. Сафонава, Л.І. Супіталёва*), «Юныя падарожнікі» (кір. *І.М. Кузьмянкоў, Т.Ф. Палажэнцава, Е.І. Балашова*), «Мастацкае краязнаўства» (кір. *Э.Я. Карповіч*), «Фатаграфічны» (кір. *Л.П. Кучко*), «Кінааматар» (кір. *В.П. Вярэшня*) і інш. Такая актывізацыя дзейнасці на станцыі (і ў вобласці) была звязана, у першую чаргу, з яе кіраўніком *Феліксам Іванавічам Пятрушам*, вопытным педагогам, добрым прафесіяналам, аматарам падарожжаў і проста неардынарным чалавекам, які на працягу 5 гадоў (1959–1963) узначальваў абласную станцыю. За гэты час Магілёўская АДЭТС стала не толькі цэнтрам экскурсійнай, але і інструктыўна-метадычнай работы па турызме і краязнаўстве.

Ў гэты ж час на Магілёўшчыне пачынаюць ствараць школьныя музеі. Гэтаму ў значнай ступені садзейнічала распрацаванае ў 1961 годзе Рэспубліканскай ДЭТС «Палажэнне аб школьным гісторыка-краязнаўчым музеі», а таксама аб'яўлены сумесна Міністэрствамі асветы і культуры Беларусі агляд-конкурс школьных музеяў. У іх рэкамендавалася ствараць музейныя экспазіцыі на краязнаўчым матэрыяле з выкарыстаннем археалагічных, этнаграфічных, геалагічных і іншых экспанатаў дадзенай мясцовасці.

Са снежня 1965 г. Магілёўскую АДЭТС узначальвала вопытны і строгі кіраўнік *Кацярына Андрэеўна Кротава*. Сваёй актыўнай, творчай і ініцыятыўнай працай яна на працягу 15 гадоў садзейнічала развіццю дзіцячага турызму, краязнаўства і экскурсій у Магілёўскай вобласці. Кацярына Андрэеўна здолела стварыць на станцыі дружны і працаздольны калектыў аднадумцаў-прафесіяналаў, што не так проста зрабіць сярод спецыялістаў – педагогаў, а тым больш турыстаў.

У 1976 г. у адпаведнасці з загадам Міністэрства асветы СССР у ліку іншых Магілёўская АДЭТС перайменоўваецца ў *Магілёўскую абласную станцыю юных турыстаў* (з турысцкай базай). З гэтага часу пашыраецца экскурсійная работа са школьнікамі, важнае значэнне надавалася экскурсіям на прамысловыя прадпрыемствы як вобласці, так і рэспублікі.

У 1980 г. на пасаду дырэктара Магілёўскай АСЮТур прызначаецца малады, але ўжо даволі вопытны і рамантычны, добра вядомы на Магілёўшчыне кіраўнік-арганізатар школьнага турызму *Ала Мікалаеўна Шлапакова*. Менавіта на яе дзявочыя плечы лёг адзін з самых цяжкіх перыядаў у развіцці турызму. Перабудова 1985-га, паскарэнне, развал Саюза ССР, адпартыйнай камуністычнай сістэмы і камсамола – усе гэтыя «катаклізмы» на дзяржаўным узроўні адчуў на сабе рэгіянальны дзіцячы турызм.

Праз некалькі гадоў упершыню ў г. Магілёве прайшлі некалькі экспедыцый пад назвай «Природа просит нашей помощи», «Малым рекам – чистоту, заботу, полноводность». Пад час іх правядзення дзеці з гуртkоў Цэнтра прыбіралі смецце на берагах рэчак Дубравенькі, Струшні, Дзебры, Друці, Вабічы, наглядалі за іх экалагічным станам і..., па дамоўленасці з гарадской інспекцыяй аховы навакольнага асяроддзя, зараблялі грошы для будучых паходаў і экскурсій.

З 1991 г. абласная СЮ Тур змяняе назву і становіцца *Магілёўскім абласным цэнтрам дзіцячаюнацкага турызму і экскурсій* (АЦДЮТіЭ). Змена назваў закранула раённыя і гарадскія турысцка-краязнаўчыя ўстановы. Некаторыя з іх сталі цэнтрамі, а большасць па-ранейшаму заставалася станцыямі юных турыстаў ці дзіцячымі турбазамі. У абласным цэнтры турызму працягвалі працаваць кваліфікаваныя і вопытныя спецыялістыпедагогі, кіраўнікі гуртkоў *Аляксандр і Ірына Лапідусы, Уладзімір Ціто́ў, Аляксандр Курылаў, Уладзімір Краўчанка, Цімур Таіраў, Міхаіл Петрачкоў* і інш. Дзякуючы ім актыўна пачаў развівацца відавы турызм – водны, пешаходны, веласіпедны, горны. Турысцкія групы навучэнцаў рэгулярна здзяйснялі паходы I–III катэгорый складанасці па Беларусі, Прыбалтыцы, Карэліі, Кольскім паўвостраве, Крыме, Каўказе, Цянь-Шані, Памірь і Далёкім Усходзе.

Цікава праводзіліся ў вобласці фестывалі турысцкай песні, якія «выраслі» з конкурсу песні на турысцкіх спаборніцтвах. На гэтых фестывалях выступалі лепшыя магілёўскія барды *Аляксандр Баль, Сяргей Кулягін*, а таксама педагогі-турысты *Уладзімір Цэнунін* (Крычаў), *Васіль і Наталля Кулакоўскія* (Бялынічы), *Аляксандр Апідовіч* (Магілёў), *Алена Мендзіялава* (Магілёў) і інш. На канцэртах вітала цёплая атмасфера, прысутныя ўспаміналі сумесныя паходы, спаборніцтвы, начлегі ў непагадзь і наогул усё тое, што завецца сяброўствам і звязвае надоўга.

Аднарасова з развіццём турызму ў вобласці значнае месца займала краязнаўства, непарыўна звязанае з турысцкімі паходамі, экспедыцыямі і экскурсіямі. У рамках рэспубліканскай экспедыцыі «Наш край» і абласной «Наш край Прыдняпроўскі» (з 1993) выхаванцы турысцка-краязнаўчых гуртkоў школ і пазашкольных устаноў збіралі і абагульнялі матэрыялы для музейных экспазіцый, складалі геаграфічныя і гістарычныя даведкі, мясцовыя карты і атласы, нарысы па гісторыі і культуры сваёй мясцовасці, стваралі школьныя музеі ці куткі. У 1993 г., упершыню ў рэспубліцы, на Магілёўшчыне краязнаўцамі і педагогамі была распрацавана і даслана ў кожную школу абласная праграма «Радзімазнаўства», у якой падрабязна прадугледжваліся асноўныя напрамкі дзейнасці па мясцовым краязнаўстве.



Экспедыцыйны атрад Сухараўскай СШ (1960-я гг.)

У 1994–1995 гг. у маляўнічых мясцінах Любужскага лесапарку пад Магілёвам прайшлі першыя (гарадскі і абласны) краязнаўчыя злёты гуртkоўцаў школ і пазашкольных устаноў Магілёўшчыны, арганізаваныя краязнаўчым аддзелам АЦДЮТіЭ. У 1-м абласным злёце прыняло ўдзел каля 150 гуртkоўцаў і педагогаў-краязнаўцаў.



Супрацоўнікі АСЮТур; у цэнтры А. Шлапакова

**Мікалай БАРЫСЕНКА**, *метадыст Магілёўскага ЦТКіЭ УА «АЦФВіС», старшыня Магілёўскага аддзялення Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры*

(Заканчэнне будзе)

Спадчына ў небяспецы

**У Смілавічах быў палац, які Ваньковічам, Манюшкам, Агінскім. Яго ўсходняе крыло (так званы «стары палац») пачало будавацца ў пачатку XVIII стагоддзя ўладальніцай мястэчка графіняй Марцыбелай Агінскай-Завіш і яе братам гетманам ВКЛ Міхалам Казімірам Агінскім, відаць, на месцы былога замка. Спецыялісты вызначаюць час кладкі яго скляпенняў XVI стагоддзем.**



# Як выратаваць палац Ваньковічаў?

Да сярэдзіны XVII стагоддзя Смілавічы былі даволі буйным па тым часе населеным пунктам з мноствам рамеснікаў і гандляроў. У 1654 годзе уладальнік мястэчка канцлер ВКЛ Марцыян Аляксандр Агінскі (1632–1690) пабудаваў тут Свята-Успенскую царкву. Ды прыхаджане не паспелі нарадавацца новаму храму (жыло тут каля 3 тысячаў душ), як былі акупаваны войскамі цара «цішайшага і дабрэйшага» Аляксея Міхайлавіча. Смілаўчане ў складзе войска ВКЛ і партызанскіх атрадаў мужна змагаліся супраць агрэсара, за што былі жорстка пакараны. Палова жыхароў мястэчка была знішчана, а шмат майстроў было прададзена ў рабства ў Маскові і Турцыю. Пасля спустошальнай вайны 1654–1667 гадоў смілаўчанам, як і ўсяму беларускаму народу, спатрэбіліся многія дзесяцігоддзі, каб зноў падняцца на ногі.

Праз 100 гадоў пасля тых жудасных падзей, у 1767 годзе, Марцыбела і Міхал Казімір Агінскія пабудавалі ў Смілавічах прыгожы уніяцкі храм і кляштар місіянераў са школамі пры іх. Пасля паўстання Т. Касцюшкі уніяцтва пачало выкараняцца і школы былі зачынены ў 1831 годзе. А пасля паўстання Каліноўскага Смілавіцкі касцёл быў перасвечаны ў праваслаўную Троіцкую царкву ў 1867 годзе. Аб тым прыгожым 2-вежавым, 3-нефавым касцёле мы маем уяўленне дзякуючы малюнкам Напалеона Орды, які гасцяваў у Смілавічах у сярэдзіне XIX стагоддзя. Храм быў разбураны бальшавікамі ў канцы 30-х гадоў XX стагоддзя, незадоўга да вайны.

Са славутасцей Смілавіч падарожнік і этнограф П. Шпілеўскі ўзгадвае 2 каменныя цэркву, 3 сінагогі, 2 мячэці і помнік Святому Яну, які належаў смілавіцкаму касцёлу.

Да нашых дзён захаваўся толькі часткова смілавіцкі палац. Але як бы і яго не напаткаў журботны лёс! Гэты палац будаваўся паступова на працягу розных эпох прадстаўнікамі трох славутых беларускіх родаў: Агінскімі, Манюшкамі, Ваньковічамі.

Смілавіцкі парк, любоўна створаны Казімірам Манюшкам, перасякалі дзве алеі. Адна з іх, якую смілаўчане назвалі «Алеяй кахання», была абсаджана ялінамі і вяла ад «старога» палаца да Волмы – меса, якое месцічкоўцы і цяпер называюць «панскім берагам». Па абодва бакі ад



алеі цягнуліся сады. Елкі даўно высечаны, засталіся толькі ліпы. Другая алея ішла ад «новага» палаца да прыбрамніцкай, што знаходзілася насупраць касцёла і кляштара місіянераў. Па ўсім перыметры сядзібы два рады ялінаў абаранялі унікальны сад ад вятроў. Сама сядзіба была абнесена ажурнай агароджай са старадаўняй чырвонай цэглы. Зараз маюцца толькі фрагменты агароджы.

Выгляд 2-павярховага, але адносна нізкага «старога» палаца з дыферэнцыраванай формай і размяшчэннем аконных праёмаў яшчэ часткова захоўваецца. Ён мае роўны фасад, раздзелены гарызантальным карнізам. Галоўны ўваход, узяты ў шырокія рамы, знаходзіўся ў сярэднім фасадзе 3-павярховай квадратнай вежы з апілястравымі навугольнікамі. Над дзвярыма быў падвешаны балкон з вытанчанай кананай чыгуннай балюстрадай. Той балкон даўно абваліўся. Прамавугольныя дзверы на першым паверсе, адкуль можна было падняцца на балкон, як і замкнутыя паўкруглыя вокны на другім паверсе вежы, размешчаны на агульнай плішчы, абкружанай шырокім прафільным карнізам. Па баках рамы аздоблены лепкай, а зверху – арыгінальнай формы налобнікам. «Стары» палац меў гладкі 4-скатны дах.



Паралельна «старому» з яго заходняга боку размешчаны «новы» палац. Ён значна вышэйшы, з асіметрычным брылем. Мае, акрамя першага і другога паверхаў, даволі высокае прызямне. Абодва будынкі Аляксандр Манюшка злучыў з дапамогаю выступу зімовага саду, які стаў часткаю зімовай рэзідэнцыі.

Побач з зімовым садам у «новым» палацы была сталовая са сценамі, абітымі дубовымі панэлямі. Яе ўпрыгожвалі пастаўленыя наўкола на спецыяльных палічках каштоўныя экспанаты са старога срэбра, шкла, крышталю і старадаўняга фарфору. У пунсовым пераходным салончыку да галоўнага салона вісеў арыгінал славутага партрэта Адама Міцкевіча на скале Аюдаг работы Валенція Ваньковіча. Часцей за ўсё гасцям паказвалі вялікі салон, вытрыманы ў стылі Людовіка XVI. Яго сцены ўпрыгожвалі карынфскія пілястры, паміж якімі ў арыгінальных рамах былі замацаваны люстры. Помню, як яшчэ ў часы майго дзяцінства ў гэтай залі па падлозе, складзенай з некалькіх гатункаў шматкаляровага паркету ў квадраты, вальсіравалі пары. Гадоў 30 таму гэты паркет па-варварску ўзарвалі і расцягнулі. Верхні пакой абягаў карніз. Салон быў абстаўлены камплектам мэблі, лакіраванай у белы колер з залачэннем, абабітай узорыстай адамашкай. Камплект гэты быў падарункам караля Станіслава Аўгуста і складаўся са стала, на якім стаяў шматсвечны бронзавы кандэлябр, канапаў і крэслаў з высокімі спінкамі. Прыгожая мэбля знаходзілася таксама ў жылых апартаментах гаспадара. Вестыбюль упрыгожвалі паляўнічыя трафеі. У палацы былі размешчаны мастацкія творы, сабраныя галоўным чынам архітэктарам і мастаком Аляксандрам Манюшкам. Тут жа знаходзілася цэлая галерэя работ Валенція Ваньковіча (а таксама іншых мастакоў), гравюры. Існавала таксама багатая бібліятэка і архіў Агінскіх, Манюшкаў, Ваньковічаў. У «старым» палацы, дзе стаяў антычны гадзіннік у аправе з чырвонага дрэва, узнікла опера «Страшны двор» Станіслава Манюшкі-малодшага, які шмат часу праводзіў тут у сваіх дзядзькоў.

Пасля рэвалюцыі ўсё гэта было разрабавана, часткова знішчана, а часткова вывезена за межы Беларусі. Сярод іх – знакамітая карціна «Міцкевіч на скале Аюдаг», «Аляксандр Ваньковіч» і інш.

Два стагоддзі смілавіцкі палац Ваньковічаў захоўваўся ў прыстойным выглядзе. У гітлераўскія часы тут знаходзіўся нямецкі гарнізон, а пасля вайны – сельскагаспадарчы тэхнікум. Пасля пабудовы новых карпусоў тэхнікума ў 70-я гады XX стагоддзя палац Ваньковічаў аказаўся непатрэбным для народна-гаспадарчага выкарыстання і пачаў хутка разбурацца.

Пра гэта шмат гаварылі на міжнароднай канферэнцыі па праграме «Адкрытая прастора», у якой прымалі ўдзел, акрамя беларусаў, немцы і галандцы. Яна была арганізавана пры падтрымцы АТ «Экапраект» і называлася «Чыстыя і квітнеючыя Смілавічы: мара ці рэальнасць?» Канферэнцыя праходзіла ў час вялікага хрысціянскага свята Тройцы 27 мая 2007 года.

Уважліва агледзеўшы палац Ваньковічаў-Манюшкаў-Агінскіх, удзельнікі канферэнцыі заўважылі, што яго заходняе крыло, у якім цяпер размешчаны лабараторыі Смілавіцкага сельскагаспадарчага каледжа, мае больш-менш здавальняючы стан (хоць і тут ёсць шмат праблем), а ўсходняе крыло, г.зн. «стары» палац, напалову разбурана і з кожным днём гэтае разбурэнне паскараецца. Пройдзе яшчэ нейкі час – і аднаўляць не будзе чаго.

Каб не дапусціць гэтага, неабходна яго неадкладная кансервацыя ці аднаўленне. Але дзяржава ў цяперашні час на рэстаўрацыю грошай выдзяляе мала. Было прапанавана звярнуцца да ўладаў з просьбай аб змене формы ўласнасці (цяпер ён належыць смілавіцкаму каледжу) з тым, каб выставіць яго на аўкцыён. У Амерыцы, Францыі, Польшчы і іншых краінах жывуць нашчадкі Агінскіх, Манюшкаў, Ваньковічаў, якія, думаецца, былі б не супраць інвесціраваць сюды грошы, каб адрадзіць палац продкаў. Ды і ў Расіі знойдуцца тыя, хто згодзіцца падняць з руін смілавіцкі палац. Плён гэтай працы чакаць доўга не прыйдзецца. Смілавічы знаходзяцца ўсяго за 30 кіламетраў ад Мінска і недалёка Нацыянальны аэрапорт. У адроджаным палацы Ваньковічаў-Манюшкаў-Агінскіх можна будзе адкрыць гасцініцу для турыстаў, стварыць музеі гэтых славутых родаў.

Удзельнікі канферэнцыі прынялі рашэнне аб неадкладнай адбудове палаца Ваньковічаў-Манюшкаў-Агінскіх за кошт сродкаў інвестараў.

А праходзіла канферэнцыя ў Смілавіцкай СШ № 1, дзе дырэктар Іван Ярашэвіч. Немцы і галандцы, як і беларускія ўдзельнікі канферэнцыі, паказалі глыбокую зацікаўленасць ва ўстойлівым развіцці мястэчка Смілавічы, паляпшэнні іх экалагічнага стану, зберажэнні для будучых пакаленняў палацава-паркавага комплексу. Абстаноўка была вельмі сардэчнай. Цяжка было паверыць, што не так даўно нашыя бацькі і дзяды ваявалі паміж сабой. Больш за ўсё прыемна здзівілі адносіны немцаў да нашай нацыянальнай спадчыны: не толькі палацава-паркавага комплексу, але і беларускай мовы. Як у нас заведзена, большасць прысутных размаўляла на рускай мове. І калі я загаварыў па-беларуску, нехта падыйшоў да мяне і папрасіў, каб я гаварыў па-руску. Маўляў, немцы не разумеюць беларускую гаворку. Па законах гасціннасці я ўжо гатовы быў гэта зрабіць. Ды тут умяшаліся самі немцы. Пані Зам Астрыд вельмі горача прасіла, каб я працягваў гаварыць па-беларуску. Яна сказала, што немцы любяць нашу мову: беларуская мова вельмі прыгожая і, у адрозненні ад рускай, – больш зразумелая. Аказваецца, іншыя народы цэняць нашу найвялікшую спадчыну (беларускую мову) больш, чым многія з беларусаў...

*Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ*







# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



(Працяг. Пачатак у №№ 3–38)

*10 чэрвеня 1925 года* з'яўляецца Пастанова Савета Народных Камісараў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, дзе не проста падкрэсліваецца, а *вылучаецца*, што за «дваццаць год Купала развіўся ў выдатнага нацыянальнага паэта, волата беларускага прыгожага пісьменства, які праз час сваёй літаратурнай працы будзіў сялянскія гушчы ад цяжкага ўціску і заклікаў да сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення». Урад пастанавіў: «1) надаць Яну Дамінікаву Луцэвічу (Янку Купалу) імя Беларускага народнага паэта; 2) прызначыць яму на ўсё жыццё персанальную пенсію» (дакументы, прыведзеныя Г. Кісялёвым ва ўжо не раз названай намі яго кнізе-даследаванні «Пуцявінамі Янкі Купалы»). Каб цяпер у «КГ» змясціць нават пералік тых устаноў і асоб з Беларусі і з-за яе межаў, хто павітаў Янку Купалу, патрэбна не адна газетная старонка. Што праўда, то праўда: многія віншавалі шчыра ***генія** беларускага народа*.

Але на сёння нямала своеасабліва ўражвае той факт, які доўга замоўчваўся. 10 чэрвеня СНК БССР побач са сваёй пастановай найвышэйшага ўганаравання Янкі Купалы адначасова (здаецца, у закрытай для грамадскасці пастанове) дадаў, што паэт вызваляецца... ад усіх службовых пасад. Чаго тут больш: стварыць яму «лепшыя ўмовы для творчай працы» альбо цяпер яго, гэтак высока адзначанага і аўтарытэтнага, адлучыць ад многіх важных спраў?!

У ліпені 43-гадовы (безумоўна ж, яшчэ маладжавы, ва ўсіх адносінах дзейсны) Купала становіцца ганаровым ці, як пазней гаварылі, «персанальным» пенсіянерам! З хлебам і да хлеба, але ж... па-своеасабліваму вольнаадпушчаны, які мог быць «ганаровым госцем на вяселлі жыхара засценка Рубеж (цяпер Лагойскі раён)». Праўда, меў і час наведаць (праездам праз Варшаву) Нямеччыну і Чэхаславакію, сядзець у розных ганаровых прэзідыумах, пазіраваць мастакам і скульптарам. Праўда, і здаць у друк II том Збору сваіх твораў.

*1926 год.* Амаль тое ж. Толькі – іншы дадатак: ён піша лісты ў адказ са згодай назваць школы яго іменем (Мазыр, Полацк і інш.), уваходзіць у склад ужо не дзяржаўных, а грамадскіх арганізацый (Беларускае таварыства культурных сувязей з заграніцай, мастацкая камісія пры выдавецтве, наведванне беларускіх гарадоў і мястэчак, удзел з дэлегацыяй пры адкрыцці тэатра ў Віцебску і інш.), нібы прабыванне там зусім не адбірае часу для творчасці. Купала-пенсіянер не можа без яе. Піша, друкуе і новыя вершы, і тыя, што былі напісаныя значна раней («І прыйдзе», «За ўсё...», «Царскія дары», «На пагранічча», «Улетку», «Каб...», «Ёсць жа яшчэ...» і інш.), дзе часамі, можа, і па-свойму царскую рэчаіснасць «накладае» на савецкую. Як і Колас, але па-свойму. З таго, што бачыў, перажываў, зазіраў далёка наперад...

16 лістапада ў БДТ (тэатры, які пазней назавуць яго іменем) на высокім прафесійным і эмацыянальным узроўні ставіцца ягоная п'еса «Тутэйшыя». Многія гледачы – у захапленні, гром воплескаў. Ды панурыстыя «мастацтвазнаўцы ў цывільным». Яны сігналізуюць... Спектакль адразу ж... забараняецца. Праз некалькі дзён ён абмяркоўваецца не ў тэатры альбо сярод пісьменнікаў, а на пашыраным пасяджэнні калегіі аддзела друку ЦК КП(б)Б. Там народнаму паэту прапанавана п'есу... дапрацаваць з «улікам яго былых памылак»! Купала, мякка кажучы, – у горычы. Яму ўдарылі пад дых! У сэрца!

## Сёння Купала, заўтра Ян

***Канчаткова свой псеўданім Янка Купала асэнсаваў і замацаваў у Бараўцах. А перад гэтым была рада і з Уладакам Самойлам. Абодва вырашылі, што лепшага псеўданіма і не прыдумаеш. Нарадзіўся на Купалле, на Яна, то і быць Ясю Луцэвічу Купалам. Сам Бог паслаў яму такі псеўданім. З гэтай нагоды Купала меў вялікую цікавасць да купальскага свята, да купальскіх абрадаў, песняў, рытуалаў. Якія ж купальскія песні мог чуць Купала ў Бараўцах? Ці памятаюць іх тут зараз?***



*Янка Купала, 1925 год*

Марыя Баравец згадвае з іх тры: «Сёння Купала, заўтра Ян», «Купалка», «А ў саду зеляненькім». Першую з іх мы ўсе больш-менш ведаем. А вось дзве наступныя варта згадаць.

*Сядзіць Купалка на плоце,*
*Яе галоўка ўся ў злоце.*
*Дай жа, Божа, пагоду –*
*Гэтай Купалцы пагоду.*
........
*А ў саду зеляненькім*
*Шызы голуб брукуе:*
*Паніч паненку любуе.*
*Ён ёй сігнэлік даруе,*
*А яна яму вяночак:*
*«Едзь жа, панічак, дадому,*
*Не заязджай жа к нікому,*
*Бо мой вяночак утраціш,*
*Вараным конем не ўплаціш».*

У арэале гэтых і іншых песняў жыў Купала, натхняўся, тварыў свае ўзнёслыя, разважлівыя, прасякнутыя народным духам вершы.

***Уладзімір СОДАЛЬ***

## Якуб Колас разважае, радзіць, смяецца...

*(Заканчэнне. Пачатак у № 37)*

Сярод выслоўяў з «Новай зямлі» варта ўзгадаць і тосты, за якімі і добрыя звычаі, і маральнасць этнасу, і народная школа красамоўства, і дасціпнасць жывога шчырага слова:

*– Ну, што ж, Антось, здароў будзь, браце!*
*Няхай дае Бог лад у хаце,*
*Дабра, прыбытку прыспарае,*
*Каб у хляве ды ўсё пладзілася,*
*Каб жыта ў полі каласілася,*
*Няхай раяцца добра пчолы,*
*І самі будзем мы вясёлы;*
*За год дай Божа дачакаць*
*Здаровым новы год спаткаць.*

Пра аднаго з найдаражэйшых сэрцу паэта герояў Якуб Колас пісаў:

*Не поп наш дзядзька, але ўмее*
*Зірнуць часамі «ў свае святцы»,*
*Каб трапным словам адазвацца.*

«Новая зямля» – гэта моўныя, маральныя, філасофскія «святцы» для кожнага чалавека, неабыякавага да культуры, мовы, лёсу беларусаў.

*Жыві ж, наш край!*
*Няхай надзея*
*Гарыць у сэрцы і мацнее...*

***Арнольд МІХНЕВІЧ,***
***доктар філалагічных навук***
*(Паводле зборніка «Каласавіны», 1994)*



*Дзень святочны на ілюстрацыі В. Шаранговіча да выдання «Новай зямлі» Я. Коласа па-беларуску, па-руску і па-польску*



(Працяг. Пачатак у №№ 3–38)

У маі 1928 года сустракаецца з той яркай асобай рускай літаратуры, Максімам Горкім, хто ў свой час высока ацаніў яго і Купалу і нават параіў многім рускім калегам вучыцца ў іх народнасці. Колас уваходзіць у склад дэлегацыі, якая мела гонар сустракаць М. Горкага, які ехаў з-за мяжы ў Савецкую Расію. У кастрычніку разам з Купалам і гісторыкам У. Пічэтам выступае ў газеце «Звязда» з прапановай рэарганізаваць Інстытут Беларускай Культуры ў Акадэмію навук БССР. Працягвае працу над паэмай «На шляхах волі», выдае некалькі кніг апавяданняў, у кнігарнях Вільні з'явіліся дзве выдатныя ягоныя паэмы «Новая зямля» і «Сымон-музыка». 6 снежня зацверджаны правадзейным членам Беларускай Акадэміі навук і абраны яе віцэ-прэзідэнтам, і гэтую важную пасаду будзе займаць амаль 28 гадоў. З 1929-га пачынае дэпутатнічаць (яго кандыдатуру ў дэпутаты Мінскага гарсавета падтрымалі студэнты педфака БДУ). Вядомы некаторыя ягоныя дэпутацкія выступленні: напрыклад, 29 лістапада выступаў на сесіі гарсавета ў спрэчках па дакладзе пра матэрыяльную дапамогу вучням, якія мелі ў гэтым вострую патрэбу, а 9 снежня даваў свае парады, як найхутчэй і найплённей пераадолець распаўсюджаную непісьменнасць. У сакавіку таго 1929 года абіраецца членам праўлення Дома пісьменнікаў, крыху пазней, да 5 чэрвеня, калі хадайнічае перад СНК БССР пра выдзяленне сродкаў для лячэння хворых літаратараў, то пад заявай пазначана, што ён – старшыня названага праўлення. Як вядома, Саюза пісьменнікаў тады яшчэ не было, але Колас фактычна пачаў кіраваць пісьменніцкай суполкай (можа, і з-за занятасці ў снежні папрасіў вызваліць яго ад гэтай турботлівай пасады).

Вельмі, мякка кажучы, арыгінальна падаецца паведамленне «Савецкай Беларусі» за 21 снежня 1929 года: у мэтах забеспячэння належным ідэалагічным і высокім у мастацкіх адносінах рэпертуарам Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр выклікаў на спаборніцтва БелАПП, таварыства драматычных пісьменнікаў і кампазітараў і шэраг пісьменнікаў, у тым ліку і Я. Коласа. Хоць... гэта было ў духу таго часу. Тым больш, што не за гарамі былі страшныя 1930-я гады...

І Колас не мог не адчуваць гэтага. Пакуль што ён жыве і працуе нібыта, як кажуць, нармальна, на пачатку 1930-га нават дазваляе сабе, кажучы сённяшняй мовай, спонсарства – перадае мінскаму беларускаму дому ганарар за паэму «Сымон-музыка». Трывожны «званок» прагучаў 1 сакавіка 1930 года: у «Савецкай Беларусі» змяшчаецца артыкул К. «Якуб Колас – паэт і грамадзянін», дзе абвяргаліся сцвярджэнні некаторых заходнебеларускіх і польскіх газет, што творца-акадэмік арыштаваны і высланы за межы Беларусі. Колас тады не пастаянна быў у Мінску: шмат ездзіў па рэспубліцы адзін і ў складзе дэлегацый. Яго, як і Купалу, шмат дзе хацелі бачыць і чуць. Можа, часамі і прыхоўваўся. Каб закончыць свой «доўгабуд» – паэму «На шляхах волі», пабыць з сям'ёй на прыродзе (спачатку каля Ждановіч, пазней на Пухавіччыне).

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*





## У скарбонку беларускай лінгвістыкі

***У выдавецтве «Кнігазбор» выйшаў «Нямецка-беларуска-рускі слоўнік. Аманімія, паранімія, полісемія». Укладальнік – Валянціна Выхота.***




У прадмове да слоўніка гаворыцца: «За час сваёй шматгадовай даследніцкай працы і працы ў школах, асабліва сельскіх, была магчымасць заўважыць і даследаваць спецыфічныя асаблівасці навучання нямецкаму слову беларускіх вучняў. На мой погляд, ёсць вялікія групы нямецкай лексікі. Першая група – словы агульнага кораня ці, як кажуць, словы, якія маюць агульную крыніцу паходжання; другая група лексікі, калі ў якасці карэспандуючых беларускіх ці рускіх слоў выступаюць міжмоўныя беларуска-руская аманімы, паронімы і полісемія. І трэцяя – "фальшывыя сябры перакладчыка"».

*Першая група* слоў мае свае дадатныя бакі. Пры навучанні нямецкай мове – гэта перанос папярэдняга моўнага досведу пры супадзенні формы і зместу цэлых слоў, напрыклад, Dach n – дах (рус. крыша), ці проста сугучных слоў, напрыклад, Zweibel – цыбуля (рус. лук), ці, нарэшце, сугучных гукаспалучэнняў, напрыклад, Niere – нырка (рус. почка). Адсюль больш лёгкі працэс запамінання нямецкага слова, апазнавання ў друкаваным тэксце і ў маўленні. Трэба адзначыць, што гэта група слоў з'яўляецца крыніцай пашырэння слоўнікавага запасу.

*Другая група слоў* мае таксама свае дадатныя бакі. Яна з'яўляецца сродкам дыферэнцыяцыі міжмоўных беларуска-рускіх (русско-белорусских) аманімаў, паронімаў і полісеміі і тым самым вызначае правільны пераклад нямецкага слова.

*Трэцяя група слоў* – «фальшывых сяброў перакладчыка» – разглядаецца ў асобнай кнізе.

Пры даследаванні на вялікім матэрыяле і з вялікай колькасцю вучняў школ краіны, асабліва сельскіх, былі выяўлены тысячы памылак, тыпавых і індывідуальных, высветлілася іх прырода, прычым, агульная – гукаграфічнае падабенства. Гэта факт вядомы. Але важна было прасачыць узаемаўплыў карэспандуючых слоў.

З'яўленне такіх памылак знаходзім у тлумачэнні В.А. Арцёмава. Пры чытанні графічны вобраз перакадзіруецца ў гукаматорны і артыкуляцыйны апарат падсвядома прымае пазіцыі для выканання ідэнтычных у нямецкім і ў нацыянальным ці рускім словах адзінкі артыкуляцыі – складоў. Склады нясуць нейкі элемент лексічнага значэння. А.Л. Лурыя ўказвае, што вакол кожнай лексічнай адзінкі складаецца шматмерная сетка сувязяў і пошук адпаведнага беларускага слова можа выклікаць цэлую сетку ўсплываючых слоў, адны з якіх узнікаюць па прынцыпе агульнага кораня пад уплывам устойкіх эксперыментатара.

Паводле доктара філалагічных і педагагічных навук А.Я. Супруна, слоўнік, які прапануецца чытачу, можа лічыцца вучэбным слоўнікам. Прызначэнне слоўніка – дыферэнцыяцыя сугучных беларускіх і рускіх слоў сродкамі нямецкіх лексем.

*Паводле газеты «Наша слова»*

## Бард рэканструюе гістарычныя падзеі

*Сяржук Сокалаў-Воюш, «Песні лісоўчыкаў». Мн., 2007, «VolaMusic».*

Наваполацкі бард і паэт Сяржук Сокалаў-Воюш быў надзвычай папулярным на мяжы 1980–1990-х гадоў. Выпушчаная ў 1989 годзе выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ягоная кніга «Кроў на сумётах» вельмі хутка стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Але спадзявацца на дыск тады ўсё адно не выпадала, бо ўсе свае музычна-выдавецкія правы Савецкая Беларусь з канца 1950-х гадоў дэлегавала маскоўскай фірме «Мелодия». Першы дыск неардынарнага беларускага барда «Нефармальны беларус» выйшаў у 2001 годзе, калі ў краіне аднавілася ўласная музычна-выдавецкая дзейнасць. Бард на той час жыў у Нью-Ёрку, але на Радзіме яго не забылі, таму попыт на той зборнік, складзены з архіўных хатніх магнітазапісаў, быў вялікі, а тыраж CD потым неаднаразова паўтараўся.




Улетку 2006 года С. Сокалаў-Воюш чарговы раз прыязджаў у Беларусь, і прэса шмат пісала пра ягоныя канцэрты. Але мала хто ведаў, што паралельна Сяржук папрацаваў пэўны час і ў адмысловай студыі Андрэя Плясанава «P.L.A.N.» ды... пакінуў свежанькі альбом, які прысвяціў жонцы Ганне і сваім сынам Станіславу, Светавіту і Славаміру.

Альбом атрымаў назву «Песні лісоўчыкаў», а ў «КГ» ён ужо згадваўся ў артыкуле «Заўсёды модны Янка Купала» (гл. № 34 за 2007). Паслухаўшы яго, скажу шчыра: такога творчага досведу бард яшчэ не меў ніколі, бо адна справа – трымаць песенны рэй на канцэртах і зусім іншая – дасканала вытрымаць у студыі ўсе рытмічныя, гарманічныя і драматургічныя параметры, якія кожны слухач зможа аналізаваць надзвычай прыдзірліва. І тут Сокалаву-Воюшу сапраўды пашанцавала, бо ягоным першым саўндпрадзюсерам стаў адмыслоўца з тонкім музычным слыхам Андрэй Плясанаў. З яго рук ніколі не выходзіла халтура (а запісваліся ў ягонай дыхтоўна аснашчанай студыі і маладыя Таццяна Беланогая ды Андрэй Хадановіч, і здольныя «Аляксандра & Канстанцін» ды «Madera Hard Blues»). Дый уласныя альбомы Андрэя Плясанава з ягоным гуртом «P.L.A.N.» даўно занялі пачэснае месца ў амерыканскай хатняй калекцыі Сяржука Сокалава-Воюша (ён неяк сам распавядаў, як аднойчы ў ньюёркскім таксі пачуў песню «Шынкарачка» ды так загарэўся ёю, што не мог супакоіцца, пакуль не даведаўся пра назву невядомага датуль калектыву і ягоныя пяць цудоўных альбомаў).

Вядома, што Сяржук Сокалаў-Воюш знакаміты сваімі гістарычнымі бардаўскімі цыкламі (нагадаем найперш «Песні касінераў» пра паўстанцаў 1863 года). Дык вось асновай новага альбома стаў паўнавартасны гістарычны цыкл «Песні лісоўчыкаў», створаны паводле пісьмовых хронікаў і фальклору Вялікага княства Літоўскага.

Сама назва «Лісоўчыкі» паходзіць ад імя палкоўніка мабільнай беларускай лёгкай конніцы 1-й паловы XVII стагоддзя Аляксандра Лісоўскага, пра якога захавалася шмат сведчанняў па ўсёй Еўропе. Ды што казаць, калі нават славуты галандскі жывапісец XVII стагоддзя Хармес ван Рэйн Рэмбрандт пакінуў сярод шэдэўраў сваёй працы і партрэт беларускага лісоўчыка (ваяра з аддзелаў ліцвінскага палкоўніка Лісоўскага). Дарэчы, рэпрадукцыя гэтага класічнага твора стварыла мастацкую аздобу альбома барда.

А як жа гучаць няўрымслівыя ваярскія песні ў бардаўскім ключы? Бадай, Сокалаў-Воюш не быў бы сапраўдным брэндам № 1 у сваёй дзялянцы, каб банальна падыйшоў да гэтай справы, «адкілбасіўшы» гістарычныя тэксты пад стандартныя акорды гітарных шлягераў. Акурат у новым цыкле, які складаюць сем песень, бард вырашыў... цалкам адмовіцца ад гітары ды заспяваць усё акапэльна. Вось акурат тут дарэчы аказалася дапамога дасціпнага саўндпрадзюсера. Ён змог з галасоў і бэк-вакалаў Сяржука разбудаваць аб'ёмную і нясумную музычную сюіту.

Але гэта яшчэ не ўсё, бо 40-хвілінны CD уключае і немалую калекцыю раней не выдаваных старых і новых песень пад гітару ды вершаў: «Запалім нашы свечкі», «З Мікеланджэла», «У пекле», «Чарачкі тонкія», «Князь», «Не верашчу»... А напрыканцы – не менш цікавая відэакалекцыя сапраўдных бардаўскіх шэдэўраў: «Нача» (пра роднае барду Прыдзвінне), «Хай заплача струна» (пра сучаснае асэнсаванне лёсу нашага краю), «Чароўная Ганна» (пра веліч віленскага касцёла Святой Ганны). У 20-хвілінным фільме выразна выявіліся прафесійныя здольнасці згаданага тут Андрэя Плясанава яшчэ і як рэжысёра (гэта ж акурат ён працаваў у маладосці з Аляксеем Рыбаравым над славутым фільмам «Мяне завуць Арлекіна»). Аншлагавы канцэрт Сяржука Сокалава-Воюша ў сталічным Доме літаратара атрымаў праз гэтага спецыяліста сваёй справы паўнакроўнае мастацкае ўвасабленне.

*Вітаўт МАРТЫНЕНКА*

***Днямі С. Сакалову-Воюшу споўнілася 50 гадоў. Віншуем славутага барда і зычым новых творчых дасягненняў.***

## Кукавячын–Парыж–

***Аляксандр Радван Рыпінскі (герба Радван) нарадзіўся, найбольш верагодна, у Кукавячыне пад Віцебскам 10 верасня 1809 г. у сям'і мясцовага старасты Фелікса Рыпінскага. Краязнаўствам і беларускім фальклорам зацікавіўся яшчэ ў час навучання ў Віцебскай гімназіі, пасля сканчэння якой у 1829–1830 гг. вучыўся ў юнкерскай школе ў Дынабургу. Там блізка сышоўся з арыштаваным і зняволеным у Дынабургскай крэпасці В. Кюхельбекерам. Гутаркі з дзекабрыстам, у якіх, між іншым, закраналіся пытанні асаблівасцяў беларускай мовы, пераконвалі ў непазбежнасці супрацьстаяння царызму. Таму, калі ў лістападзе 1830 г. у Варшаўскім княстве ўспыхнула паўстанне, А. Рыпінскі з таварышамі па юнкерскай школе падаўся ў шэрагі змагароў за свабоду. У выніку паразы паўстання давялося пакінуць межы радзімы.***

Перайшоўшы прускую мяжу, А. Рыпінскі апынуўся ў эміграцыі – спачатку ў Авіньёне, а затым у Парыжы, дзе зблізіўся з Ю.-У. Нямцэвічам, І. Лялевелем і А. Міцкевічам. Будучы сябрам Таварыства Літоўскага і Земляў рускіх, выступаў, пачынаючы з лістапада 1839 г., з цыклам лекцый у Калеж дэ Франс, якія былі аб'яднаны пасля пад назвай «Беларусь» і выдадзены ў 1840 г. асобнай кнігай. Гэта было фальклорна-этнаграфічнае даследаванне Віцебскага рэгіёна, якое амаль цалкам грунтавалася на крыніцах, атрыманых аўтарам, так бы мовіць, з першых рук і ўзноўленых па памяці (ранец з фальклорнымі запісамі згубіўся ў час паўстання). Як прызнаваўся сам А. Рыпінскі, «няцяжка мне было б гэта ўспамінаць, бо спевы тыя нейкай асаблівай замілаванасцю прыцягвалі да сябе з майго дзяцінства; а што ад самай калыскі ўрэзалася ў маладую памяць, тое пастаянна захоўвалася ў ёй...»



Памяць вяртала Рыпінскага ў край маладосці, уваскрашала дарагія сэрцу малюнкі і з'явы, выклікала настальгію па родным улонні, надавала асэнсаванню беларускага фальклору адценне асаблівай цеплыні, і тым не менш сваю кнігу «Беларусь» ён прысвяціў «першаму з беларускіх мужыкоў, які спачатку навучыцца чытаць, а потым гаварыць і думаць па-польску».

Зразумела, тут была супярэчнасць, якая тлумачыцца, з аднаго боку, тым, што паэт-фалькларыст не прадбачыў ці не прадчуваў самастойнага развіцця беларускай літаратуры, імкнучыся падключыць вуснапаэтычную творчасць сваіх землякоў да сферы жыўлення польскага рамантызму народнасцю, а з другога – менавіта моўная сітуацыя ў зносінах «сялянства і панства» Віцебшчыны падштурхнула А. Рыпінскага да ўключэння ў сваю кнігу макаранічнага верша «Лямант раскаханага», у якім высмейвалася моўная «трасянка» шляхты.

У 1846 г. А. Рыпінскі пераехаў з Парыжа ў Лондан, дзе разам з Ігнатам Яцкоўскім, адвакатам з Навагрудка, заснаваў друкарню. Аднак займаўся ён не толькі выдавецкай справай, калі даводзілася быць «адразу аўтарам, наборшчыкам, карэктарам, рэдактарам, друкаром, брашуроўшчыкам, нават кнігаром», але і выкладаў матэматыку, маляванне і французскую мову ў школе Ігл-хаус, а ў дадатак да ўсяго захапляўся фатаграфіяй.

У 1850-я А. Рыпінскі ў сваёй лонданскай друкарні выдаў не менш за дзесяць уласных кніг («Прарок», 1951; «Да генерала Дэмбінскага», 1852; «Сяржант-філосаф», 1854; «Верш да палкоўніка Крыстына Ляха-Шырмы...», 1857 і інш.), але гэта былі пераважна невялікія брашуры прынагодных твораў на польскай мове. З іх вылучаліся два выданні: «Паэтычныя творы» (1853) і беларускамоўная балада «Нячысцік» (1853).

Балада А. Рыпінскага «Нячысцік» з'явілася на стыку дзвюх традыцый – літаратурнай і вуснапаэтычнай. Аднак яна была ўжо не рамантычным, а бурлескным творам, і яе падзагаловак з жанравым вызначэннем «беларуская балада» меў, хутчэй, іранічны сэнс і выяўляў стаўленне аўтара да рамантычнай балады і да распаўсюджанага ў ёй зместу як падкрэслена парадыйнага.

Арыентацыя Рыпінскага на паэтыку народнага дыдактычнага аповеду і яго імкненне асвоіць стыль фальклорна-беларускіх гутарак прасочваюцца праз усю баладу і асабліва яны відавочна ва ўступе, напісаным у адпаведнасці з традыцыйнымі зачынамі вуснапаэтычных твораў павучальнага характару:

*Таму ўжо сто лет будзе,*
*Старые помняць то людзе;*
*Скажыць вам і Апанас:*
*Жыў, быў Мікіта ў нас,*
*На самым канцу сяла:*
*Там яго хатка была.*

# Нявеста Кастуся Каліноўскага

***Адной з самых блізкіх да Кастуся Каліноўскага асоб (магчыма нават самай блізкай) на заключным этапе паўстання была яго нявеста – Марыя Ямант. Парадаксальна, але на сёння гэтая асоба аказалася і самай забытай. Дарэмна шукаць пра яе якія-небудзь звесткі ў даследаваннях, прысвечаных паўстанню 1863–1864 гадоў у Беларусі і Літве ці дзейнасці беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата, ці ў даведачных выданнях, што выйшлі апошнім часам. Дадзеная публікацыя, прысвечаная жыццёваму шляху Марыі Ямант, заклікана паслужыць пачаткам працэсу вяртання гэтай асобы, усёй сям'і Ямантаў у гісторыю нацыянальна-вызваленчай барацьбы на беларуска-літоўскіх землях другой паловы XIX стагоддзя.***

Марыя Ямант нарадзілася ў Вільні каля 1843 года ў мнагадзетнай сям'і (у яе было яшчэ тры сястры і два браты). Бацька Марыі – Тадэвуш Ямант служыў у адміністрацыі маёнткаў князя Вітгенштэйна, размешчаных на тэрыторыі Беларусі і Літвы, і добра ведаў становішча сялян, іх патрэбы, беды. Можа быць таму ў сям'і Ямантаў панавалі настроі, несумяшчальныя з духам тагачаснай самадзяржаўнай ідэалогіі. І не дзіўна, што ўсе дзеці Ямантаў, акрамя старэйшага сына, які служыў у Пецярбургу, прынялі ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху, заплаціўшы за гэта шматгадовай ссылкай у Сібір.

Іосіф Ямант, таварыш Кастуся Каліноўскага па Пецярбургскім універсітэце, здольны і прадпрымальны, паводле слоў Я. Гейштара, «быў вельмі карысным» у час паўстання, займаў пасаду рэвалюцыйнага камісара Мінскай губерні.

Усе сёстры Ямант – Марыя, Алена, непаўналетняя Схаластыка, а таксама самая старэйшая Людвіка (у той час ужо была замужам за Л. Радзевічам і жыла асобна ад бацькоў) уваходзілі ў склад Жаночага камітэта ў Вільні. Гэты камітэт актыўна супрацоўнічаў з падпольнай рэвалюцыйнай арганізацыяй. Характарызуючы яго дзейнасць, Людвіка ў сваіх успамінах пісала: «Было ў нас тады многа жанчын надзвычайнай сілы духу і мужнасці. Некаторыя, з выгляду ціхія і нясмелыя, у момант небяспекі неаднаразова дэманстравалі сапраўдны гераізм і бясстрашнасць». Да такіх жанчын належалі і сёстры Ямант. Яны захоўвалі і распаўсюджвалі нелегальную літаратуру, нарыхтоўвалі правіянт, амуніцыю і зброю для будучых паўстанцаў, хавалі паўстанцкія друкарні і г.д.

Бацькі Ямант з-за пажылога ўзросту непасрэднага ўдзелу ні ў падрыхтоўцы, ні ў самім паўстанні не прымалі. Аднак ведалі пра дзейнасць сваіх дзяцей і падтрымлівалі іх. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчыць адзін з паплечнікаў К. Каліноўскага І. Мілевіч.

З лета 1863 года ў доме гэтай патрыятычнай сям'і ў Вільні знаходзілася адна з галоўных канспіратыўных кватэр К. Каліноўскага. Спачатку ён тут жыў, а затым прымаў найбольш блізкіх і правераных людзей.

Найбольш каштоўныя звесткі аб сувязях К. Каліноўскага з сям'ёй Ямант мы знаходзім у паказаннях Іосіфа Каліноўскага (цёзка па прозвішчы) Віленскай асобай следчай камісіі. Паколькі яго ўспаміны і пісьмо будуць цытавацца намі часта, напомнім коратка пра яго жыццёвы шлях. Іосіф Каліноўскі (1835–1907) нарадзіўся ў Вільні ў сям'і дырэктара Дваранскага інстытута, які ён скончыў з залатым медалём. Адукацыю атрымаў у Пецярбургу ў Ваенна-інжынернай акадэміі (да паступлення туды два гады вучыўся ў Горы-Горацкім агранамічным інстытуце). З 1860 года знаходзіўся на ваеннай службе ў Брэсцкай крэпасці. Пасля пачатку паўстання 1863–1864 гадоў выйшаў у адстаўку ў чыне капітана, прыбыў у Вільню і ўзначаліў Ваенны аддзел рэвалюцыйнай арганізацыі Беларусі і Літвы. Легальна пражываў у Вільні ў бацькоў, афіцыйна займаў пасаду настаўніка ў гімназіі.



*Сям'я Ямантаў у Табольску. Паміж бацькамі стаіць злева Марыя*

Пасля арыштаў і эміграцыі шэрагу кіраўнікоў паўстання разам з К. Каліноўскім належаў да яго кіраўніцтва, хоць поглядаў апошняга не падзяляў. Іосіф Каліноўскі быў арыштаваны з 24 на 25 сакавіка 1864 года і прыгавораны да пакарання смерцю, якое ўлады замянілі 10 гадамі катаргі. Яго ўспаміны, паказанні і пісьмы з'яўляюцца каштоўнай крыніцай па гісторыі паўстання 1863–1864 гадоў. Заўважым, што паказанні Іосіфа Каліноўскага былі дадзены тады, калі Кастуся Каліноўскага ўжо не было ў жывых, а пра дзейнасць сям'і Ямантаў было добра вядома следчай камісіі. Тым не менш праз шмат гадоў ён напісаў, што ў адносінах да гэтай сям'і ён адчувае мукі сумлення. Вось што паведаміў І. Каліноўскі Віленскай асобай следчай камісіі аб сувязі Кастуся Каліноўскага з сям'ёй Ямантаў: «У канцы жніўня ці ў пачатку верасня (1863 года) я з ім (Кастусём Каліноўскім) зноў сышоўся на Нямецкай вуліцы, тады ён клікаў (мяне) у кватэру, якая аказалася потым кватэрай Ямантаў... З таго часу я сустракаўся з Каліноўскім... у той жа кватэры, а потым на яго кватэры ў доме гімназіі... Пры ўваходзе ў кватэру Ямантаў трэба было пастукаць. У тыя часы, калі я ў ёй бываў, дзверы адчыняў ці сам Каліноўскі ці Далеўскі...»

Дадатковыя падрабязнасці на гэтую тэму ўтрымліваюцца ў паказаннях В. Парфіяновіча, які выдаў месца жыхарства К. Каліноўскага палкоўніку Лосеву. Падзеі, аб якіх тут ідзе размова, адбыліся восенню 1863 года.

«Вярнуўшыся каля 4 гадзін апоўдні, Міхаіл Аскерка (рэвалюцыйны камісар Мінскай губерні да прызначэння на гэтую пасаду Іосіфа Ямента – **В.Ш.**) мяне ўзяў з сабой і завёў да Ямантаў. Там пастукаў у дзверы, якія адчыніла, здаецца, дзяўчына Ямант, і мы ўвайшлі ў маленькі пакойчык ад уваходу прама... Увайшоўшы туды, мы знайшлі Каліноўскага і Мілевіча... Аскерка сказаў маё прозвішча, але Каліноўскі пра сваё ўмаўчаў».

У паказаннях В. Парфіяновіча ёсць нават апісанне мэбліроўкі пакоя К. Каліноўскага ў доме Ямантаў: «У пакоі справа ад дзвярэй знаходзілася канапа, пры ёй стол і два крэслы, далей стаяў камод, акно справа ад канапы выходзіла ў галерэю».

Менавіта ў гэтым пакоі, што знаходзіўся ў доме Ямантаў, неаднаразова праводзіліся Кастусём Каліноўскім нарады з кіраўнікамі паўстання, якія апісала ў сваіх успамінах Людвіка Ямант (Радзевіч).

Відаць, летам 1863 года ў Вільні і нарадзілася вялікае і сапраўднае каханне паміж Марыяй і Кастусём. Паколькі праяўленне сапраўдных пачуццяў не мае патрэбы ў лішніх сведках, не будзем траціць час на іх пошукі. Высветлім прынцыповае пытанне: «Ці была Марыя нявестай беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата?» Сцвярджальны адказ на яго змяшчаецца ў рукапісных успамінах Людвікі Ямант (Радзевіч), старэйшай сястры Марыі. На адной са старонак гэтага неапублікаванага рукапісу чытаем: «Старэйшая сястра Марыя была нявестай Кастуся Каліноўскага». Дарэчы растлумачыць, што старэйшай сястрой Марыя названа тут у адносінах да Алены і Схаластыкі.

***Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ***

*(Заканчэнне будзе)*

# Лондан–Строганы

Паводле вершаванай структуры і манеры выкладу матэрыялу, уступнага слова і дыдактычнай устаноўкі, «Нячысцік» набліжаўся да народнай гутаркі, надзвычай распаўсюджанай у беларускай вуснай традыцыі. Парадыйнасцю ж ён узмацняў разрыў з прыўзнятасцю баладнага стылю. Стаўшы з'явай беларуска-польскага літаратурна-фальклорнага ўзаемадзеяння, «Нячысцік» Рыпінскага, выхаванага на паэзіі Адама Міцкевіча, быў не толькі пачаткам беларускамоўных балад, але і развітаннем з рамантычнай баладаю.

Паводле зместу і манеры падачы матэрыялу, балада «Нячысцік» мае шмат агульнага з жанрам гутаркі, пашыраным у сялянскім асяроддзі без аўтарства, аднак яна была прадвызначана «Размовай хлопаў», напісанай Янам Баршчэўскім з арыентацыяй на папулярную ў польскай літаратуры форму «размовы» і цьмяным прадчуваннем «гутаркі» ў беларускім літаратурным развіцці. Жанр «размовы» – «гутаркі», такім чынам, таленавіта ўгаданы ў творчасці Яна Баршчэўскага на беларускай мове, а пасля, выяўляючыся ў баладных аповедах мясцовага (рэгіянальна полацка-віцебскага) зместу, быў падхоплены (свядома ці несвядома) ў польска-ліцвінскай эміграцыі і распрацаваны ў так званай баладзе «Нячысцік». Тут А. Рыпінскі, натуралізуючы сваю эвалюцыю ў бок беларускага мастацкага слова, засведчыў праз сорак гадоў пасля пачынанняў Яна Баршчэўскага актуальнасць апавядальна-эпічнага, гутарковa-бурлескнага стылю для развіцця беларускай літаратуры на беларускай мове.

Баладу «Нячысцік» адразу ж пасля яе лонданскага і познаньскага выданняў (1853) А. Рыпінскі спрабаваў надрукаваць у Расіі. Аднак прафесар-славіст І. Сразнеўскі, да якога Пецярбургскі цэнзурны камітэт звярнуўся за кансультацыяй, выказаўся супраць яе выдання, патлумачыўшы сваё рашэнне ў дакладзе ад 7 снежня 1853 г. тым, што «кніжка гэтая не можа быць ухвалена да друку рускаю цэнзурай, – папершае, таму што аўтар яе Аляксандр Рыпінскі вядомы як пісьменнік, адданы бунтоўным ідэям, і выказаў іх, між іншым, і ў дачыненні да Беларусі ў кніжцы «Bialorus»; – па-другое, таму што яго балада «Niaczyscik» прапануецца да друку лацінскімі літарамі, тады як яна напісана па-руску на мясцовай гаворцы праваслаўных жыхароў Беларускага краю і хоць бы і без шкоднай наўмыснай, але ўсё-такі не без магчымасці распаўсюджання ў народзе пісьменнасці лацінскай».

Адмаўленне Рыпінскаму ў выданні яго «Нячысціка» ў Расіі не паспрыяла таму, каб Рыпінскі паспяшаўся скарыстаць з абвешчанай царскім урадам амністыі, у тым ліку ўдзельнікам вызвольнага руху: ён вярнуўся на радзіму толькі ў жніўні 1859 г. На жыхарства спыніўся ў брата Віктара Рыпінскага, адстаўнога штабс-капітана, у яго маёнтку ў Кукавячыне, але пазней перабраўся да сваячкі ў Строганы, шмат абхадзіў мясцін у родных ваколіцах, назапашваючы матэрыял для гісторыі літаратуры Беларусі і спакваля ведучы працу над біяграфіямі пісьменнікаў, якія, паводле яго словаў, «або нарадзіліся на Белай Русі, або таксама пра яе пісалі на абедзвюх мовах нашай правінцыі, як польскай, так і русінскай».

У гэтых словах быў ужо іншы Рыпінскі, не падобны на аўтара «Беларусі». Час эміграцыі пазначыў яго патрыятызм больш выразнымі нацыянальнымі рысамі. Таму ў «Альбом» А. Вярыгі-Дарэўскага ў 1860 г. ён пасля свайго польскамоўнага верша робіць па-беларуску наступны запіс:

*Ты ж сам, суседзька, хацеў,*
*Штоб і я табе запеў;*
*Ну, я табе і паю –*
*Прымі песеньку маю!!!*
*Можа, ета ня песнь? Каша?!*
*Да ўсё ж дыкі свая – наша!!!*

І нарэшце ў лісце да Адама Плуга, датаваным 1883 г., Рыпінскі прызнаецца: «Можа, дарэмна мы горнемся да гэтай няшчаснай Польшчы як народжаныя на Русі».

Эвалюцыя нацыянальнай свядомасці вывела Рыпінскага на шлях напісання гісторыі літаратуры Беларусі і абумовіла білінгвальны крытэрый адбору пісьменнікаў для яе. Паводле тых матэрыялаў, якія часткова дайшлі да нашага часу праз копіі ці апісанне, можна меркаваць, што Рыпінскім былі сабраныя каштоўныя літаратурныя крыніцы, бо іх асвоеная частка спрыяла, напрыклад, вырашэнню праблемы аўтарства паэмы «Тарас на Парнасе».

Да 1883 г. Рыпінскі напісаў біяграфічныя нарысы Я. Баршчэўскага, Ю. Лускіны, Ф. Князьніна, Г. Марцінкевіча, В. Газдавы-Рэута, Ф. Рысінскага і Т. Заблоцкага, але гісторыю, якую меркавалася скласці з 55 персаналіяў, ён, відаць, не змог закончыць, хоць і пражыў да 1900 г.

З выдадзеных кніг Рыпінскага бадай ці не самай папулярнай была яго «Беларусь», асабліва ў асяроддзі землякоў-эмігрантаў. Напісаная на аснове ўспамінаў аўтара, звязаных з этнакультурным жыццём родных ваколіц, яна паўплывала на з'яўленне кнігі «Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды» (Лондан, 1854; Познань, 1858), выдадзенай без указання імя аўтара Ігната Яцкоўскага, кампаньёна Аляксандра Рыпінскага па друкарні і кнігарні, былога наваградскага адваката, удзельніка паўстання 1830 г., таксама эмігранта. Таму да ўскосных заслуг Рыпінскага трэба далучыць і тое, што эмацыянальна белетрызаваныя мемуары Яцкоўскага данеслі да нас тэкст беларускага верша «Заграй, заграй, хлопча малы» і інтрыгуючую інфармацыю пра аўтара, які не мог не з'явіцца ў асяроддзі крашынскіх сялян, здольных на мужную абарону сваёй чалавечай годнасці.

***Уладзімір МАРХЕЛЬ***

## Вывучэнне беларускай мовы ў Карлавым універсітэце

Інстытут славянскіх і ўсходнееўрапейскіх ведаў філасофскага факультэта Карлавага універсітэта (Прага, Чэхія) з новага навучальнага года пачне выкладаць беларускую мову. Такое жаданне выказалі самі студэнты славістыкі.

У лютым гэтага года студэнты звярнуліся да адміністрацыі: «Беларуская мова без сумневаў з'яўляецца культурнаю спадчынай Еўропы. Гэта скарб дадзены Вялікім княствам Літоўскім, скарб са сваімі асаблівасцямі: старажытнасцю і чысцінёю, які займае ганаровае месца ў сям'і славянскіх моваў, які на сённяшні момант, на жаль, знаходзіцца пад вялікаю пагрозай. Таму мы, ніжэй падпісаныя студэнты, жадаем, каб кіраўніцтва Інстытута зрабіла ўсё неабходнае да правядзення вывучэння беларускае мовы на ФФ КУ, і каб усе зацікаўленыя людзі дапамаглі ў дасягненні гэтай мэты».

Нядаўна ад кіраўніцтва пражскай славістыкі прыйшла добрая навіна. Беларуская мова ў межах Інстытута славянскіх і ўсходнееўрапейскіх ведаў філасофскага факультэта Карлавага універсітэта вывучацца будзе.

Ад акадэмічнага года 2007/2008 будзе рэалізаваны двухсеместравы курс беларускай мовы для пачаткоўцаў пад кіраўніцтвам доктара Юрася Бушлякова. Так напісана ў афіцыйным дакуменце, які студэнты атрымалі ад кіраўніка Семінарыі ўсходнееўрапейскіх ведаў доктара філасофіі Марака Пршыгоды.

*Томаш ГАСЮЛЬ, г. Прага*



Цып-цып, пеўнік... Цып-цып, курка...

*Фота Ігара ГРЭЧКІ*

## Вандроўка па Мазыршчыне



**Уздоўж**

**5**. Расійскі этнограф, географ, фальклярыст, ганаровы акадэмік АН СССР, ураджэнец Міншчыны. Аўтар працы «Слоўнік якуцкай мовы». Жыў у Мазыры і вучыўся ў Мазырскай гімназіі. **6**. Прафесія вучонага, старшыні ТБМ А. Трусава, які ў 1980-я гг. праводзіў даследаванні на Мазырскім гарадзішчы Замкавая Гара. **9**. Двойчы Герой Савецкага Саюза, генерал арміі, камандуючы кавалерыйскага корпуса, які вызначыўся ў баях за вызваленне Мазыра. **10**. «...-сапяжанкі». Верш Я. Коласа, напісаны ў 1910 г. **11**. Мазырскі краязнавец, аўтар працы «Горад Мазыр і яго ваколіцы». Займаў пасаду дырэктара Інстытута геалогіі і гідралогіі АН БССР. Быў рэпрэсаваны. **14**. Гімнастычны ручны снарад. **17**. Левы прыток Прыпяці на тэрыторыі Мазырскага і інш. раёнаў Гомельшчыны. **18**. Воскападобнае рэчыва, адзін з відаў прадукцыі Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода. **19**. Рачное судна водазмяшчэннем да 20 тысяч пудоў. Да сярэдзіны XIX ст. такія хадзілі па Прыпяці, Нёмане, Дняпры і інш. **20**. Вельмі нізкі бас. **23**. Герой Савецкага Саюза, публіцыст, жыла і вучылася ў Мазыры. **25**. Вуснае выкладанне вучэбнага прадмета. **26**. ... Славы. Мемарыяльны комплекс у Мазыры. **30**. Назва буйнога ў Беларусі Мазырскага вытворчага дрэваапрацоўчага аб'яднання. **32**. Мазырскія ... Дзяржаўны ландшафтны заказнік у ваколіцах Мазыра. **33**. «Прыпяцкія ...» Аб'яднанне мазырскіх літаратараў. **34**. Старажытная вёска на беразе Прыпяці, радзіма вучонага, акадэміка М. Мацапуры. **35**. Мазырскае прадпрыемства па выпуску друкаванай прадукцыі, якое існуе з 1900 г.

**Упоперак**

**1**. Невялікі грамадскі сад, якіх у Мазыры некалькі. **2**. Ахова, якая суправаджае каго- ці што-небудзь. **3**. Тое, што і сход. **4**. Сукупнасць усіх відаў раслін Мазыршчыны і інш. раёнаў Беларусі. **5**. «Беларусы-...» Этнаграфічны нарыс этнографа і фалькларыста А. Сержпутоўскага, які жыў і працаваў на Мазыршчыне. **7**. Дзяржаўны дзеяч ВКЛ. У 1515 г. быў старастам мазырскім. **8**. Беларускі і рускі пісьменнік, аўтар зборніка памфлетаў, аповесці «За Добрыцай-ракой» пра будаўніцтва Мазырскага НПЗ. У 1930-я гг. настаўнічаў на Мазыршчыне. **12**. Беларуская ... (краіна ў Заходняй Еўропе). Так называюць Мазыр за яго маляўнічыя краявіды. **13**. Вучоны-медык, акадэмік АН Беларусі, які ў гады белапольскай акупацыі кіраваў Мазырскім падполлем. **15**. Герой Савецкага Саюза, лётчык-знішчальнік. Вызначыўся ў баях за вызваленне Мазыра. Паўтарыў подзвіг М. Гастэлы. Пахаваны ў Мазыры. **16**. Імя апошняга цара Расійскай імперыі, які, як сведчыць легенда, вельмі любіў мазырскае піва. **21**. Працаўнік сельскай гаспадаркі. **22**. Злучэнне ваенных рачных суднаў, якія ў гады грамадзянскай вайны вызначыліся ў вызваленні Мазыршчыны ад белапольскіх акупантаў. **24**. У даваенныя гады назва Мазырскай шавецкай арцелі. **27**. Назва вялікай этнічнай групы Польшчы, ад якой, як лічаць некаторыя вучоныя, паходзіць назва Мазыра. **28**. Салдат у царскай Расіі, служба якога працягвалася 25 гадоў і болей. **29**. Вядомы герой грамадзянскай вайны, дывізія якога ў 1919 г. абараняла Мазыр. Легендарны камдыў мае беларускае паходжанне, яго бацькі – ураджэнцы Стоўбцаў. **31**. Вядомы музыкант і кампазітар, ураджэнец Мазыра. Аўтар шматлікіх музычных твораў, працаваў у Расіі.

***Склаў Лявон ЦЕЛЕШ, г. Дзяржынск***

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ГІСТАРЫЗМЫ** – словы, якія абазначаюць прадметы, з'явы і паняцці, што з цягам часу выйшлі з ужытку («аршын», «грыўня», «дзіда», «камбед», «лікбез», «нарком», «нэп» і інш.). У адрозненне ад архаізмаў гістарызмы не маюць сінонімаў у сучаснай беларускай мове, таму найчасцей выкарыстоўваюцца ў навуковай і мастацкай літаратуры для стварэння каларыту пэўнай эпохі, узнаўлення рэальных гістарычных абставін і мовы герояў: «Наслалі нам асаднікаў, жандараў і ўраднікаў, і іншае брыды» (Якуб Колас), «На сценах віселі старыя чаканы, двуручныя мячы, кальчугі» (Ул. Караткевіч).

З паняццямі гістарызму звязаны раздзел гісторыі мовы (гістарычная граматыка), які вывучае фармаванне і развіццё моўнай сістэмы на працягу існаванння мовы, раздзел лексікалогіі (гістарычная лексікалогія), які вывучае гісторыю слоўнікавага складу мовы і змяненні ў розных групах лексікі. Таксама ёсць такія паняцці, як гістарычная проза і гістарычны жанр, гістарычная школа, гістарыяграфія, гістарычны слоўнік, гістарычныя песні, гістарычны музей, гісторыя мовы, гісторыя літаратуры, гісторыя мастацтваў і інш.

**ГІСТАРЫЯГРАФІЯ** *гісторыі Беларусі*. Першыя звесткі пра падзеі, асоб на сённяшніх беларускіх землях адлюстраваныя ва ўсходнеславянскім летапісным зводзе «Аповесць мінулых гадоў» (напісана ў Кіева-Пячэрскім манастыры ў пачатку XII ст. на аснове больш ранніх крыніц). Там даволі шырока адлюстраваная эпоха Полацкай зямлі, пачынаючы з IX ст. Пра заклад падмурку ВКЛ прыкладна ў 1246 г. ёсць асобныя звесткі ў Галіцка-Валынскім летапісе (звод канца XIII ст., ахоплівае падзеі за 1201–1292 гг., апошнія запісы датычаць Пінскай зямлі). У XV–XVII стст. вялося беларускае летапісанне («Летапісец вялікіх князёў літоўскіх», «Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага», «Хроніка Быхаўца», Баркулабаўскі летапіс, «Магілёўская хроніка» і інш.; усіх захавалася каля 50 спісаў беларускіх летапісаў).

Першым вядомым даследчыкам ВКЛ лічыцца польскі храніст XVI ст. М. Стрыйкоўскі, які ў сваёй «Хронікы...» (1582) выкарыстаў разнастайныя дакументальныя крыніцы для асвятлення ягонай гісторыі. У XVII–XVIII стст. агульныя пытанні гісторыі ВКЛ (у прыватнасці беларускіх зямель) у ім распрацоўвалі А. Віюк-Каяловіч (1609–1677; спрабаваў сістэматызаваць названы курс), Я. Пашкоўскі, С. Богуш-Сестранцэвіч (дзядзька В. Дуніна-Марцінкевіча) і інш. Выдаўшы ў 1824 г. зборнік «Беларускі архіў старажытных грамат», прыняўшы ўдзел у выданні 5-томнай працы «Акты Заходняй Расіі (1846–1853), пачынальнікам беларускай археаграфіі стаў І. Грыгаровіч (1792–1862). Адным з першых даследаваць беларускае краязнаўства пачаў М. Без-Карніловіч (1796–1862). У XIX – пач. XX стст. з'явілася ўжо шмат прац па гісторыі Беларусі рускіх і польскіх даследчыкаў, але многія з іх, на жаль, былі перапоўненыя шавіністычным цяжарам: рускія аўтары бачылі Беларусь і беларускі люд як найперш спадчынную састаўную частку Расіі, польскія – Польшчы. Пры гэтым не прытрымліваліся навуковай прыстойнасці: пэўныя гістарычныя факты ігнаравалі, а некаторыя фальсіфікавалі на карысць сваіх канцэпцый. Супраць іх у 1810–1820-х гг. выступіў гурт прафесараў Віленскага універсітэта (І. Даніловіч (1787–1843), Т. Нарбут (1784–1864) і інш.), якія падкрэслівалі дамінуючую ролю беларускіх зямель, іх культуры ВКЛ, самастойнасць яго на працягу многіх стагоддзяў, дзяржаўнасць у ім беларускай мовы – адпаведна, выказваліся за аднаўленне былой суверэннасці ВКЛ. У канцы 1870 – 1-й пал. 1880-х беларусазнаўства распрацоўвалі народнікі (часопіс «Гомон»). На пачатку XX ст. гэтая турбота была ў цэнтры ўвагі навукова-публіцыстычных распрацовак Беларускай сацыялістычнай грамады (1902–1918; грунтоўнымі аўтарамі па названых праблемах былі І., А. Луцкевічы), газеты «Наша Ніва».

*(Заканчэнне артыкула будзе)*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г. Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26, 334 61 62.
Тэл./факс 334-42-03
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас. Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 18.10.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14). Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 1251.
Тыраж 1270 асобнікаў.